## Урок 99



| | Дзяс. | Адз. |
|---|---|---|
| | 8̇ → | 6 |
| | 7 | 16 |
| − | 5 | 7 |
| | 2 | 9 |

$$\begin{array}{r} -\dot{8}6 \\ 57 \\ \hline 29 \end{array}$$

**Разважай так!**

Ад 6 адзінак нельга адняць 7 адзінак. Бяру 1 дзясятак (каб не забыць, стаўлю кропку над лічбай 8). 1 дзясятак і 6 адзінак — гэта 16 адзінак. Ад 16 адзінак аднімаю 7 адзінак, атрымліваю 9 адзінак. Пішу 9 пад адзінкамі. Ад 7 дзясяткаў аднімаю 5 дзясяткаў, атрымліваю 2 дзясяткі. Пішу 2 пад дзясяткамі. Рознасць лікаў 86 і 57 роўна 29.

**1** Вылічы.

$$\begin{array}{r} -36 \\ 18 \\ \hline \end{array} \quad \begin{array}{r} -97 \\ 19 \\ \hline \end{array} \quad \begin{array}{r} -80 \\ 47 \\ \hline \end{array} \quad \begin{array}{r} -55 \\ 36 \\ \hline \end{array} \quad \begin{array}{r} -70 \\ 25 \\ \hline \end{array}$$

**2** Мама ababрала 16 бульбін, а дачка — 9. Яны зварылі 20 бульбін, а астатнія пакінулі для дранікаў. Колькі бульбін пакінулі для дранікаў?

**3*** Палічы, колькі на рысунку трохвугольнікаў і колькі квадратаў.



**4** На талерках ляжалі мандарыны. Калі на першую талерку паклалі яшчэ 3 мандарыны, а на другую — 5 мандарынаў, то на кожнай атрымалася па 15 мандарынаў. Колькі мандарынаў было на кожнай талерцы спачатку?

**5** Аднаві прыклады.

| | | |
|---|---|---|
| 12 = 21 – ☐ | 35 = ☐ – 6 | 29 + ☐ = 33 |
| 34 = 40 – ☐ | 63 = ☐ – 8 | 48 + ☐ = 52 |

**6** У рулоне было 38 м тканіны. Пасля таго як ад яго адрэзалі некаторую частку, у рулоне засталося 9 м. Колькі метраў тканіны адрэзалі?




**7** Вылічы ў слупок.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 21 – 12 | 33 – 25 | 41 – 32 | 55 – 47 |
| 43 – 16 | 77 – 28 | 82 – 34 | 71 – 52 |

# Урок 100



| С. | Дзяс. | Адз. |
|---|---|---|
| 1̇ | → 0 | 0 |
| | 10̇ | → 0 |
| | 9 | 10 |
| – | 3 | 5 |
| | 6 | 5 |

$$
\begin{array}{r} -\,1\dot{0}0 \\ 35 \\ \hline 65 \end{array}
$$

**1** Вылічы.

$$
\begin{array}{r} -\,100 \\ 24 \\ \hline \end{array}
\qquad
\begin{array}{r} -\,100 \\ 71 \\ \hline \end{array}
\qquad
\begin{array}{r} -\,100 \\ 44 \\ \hline \end{array}
\qquad
\begin{array}{r} -\,100 \\ 52 \\ \hline \end{array}
$$

**2** Запішы выразы і знайдзі іх значэнні:

14 паменшыць на 12;
рознасць лікаў 89 і 19 павялічыць на 9;
да сумы лікаў 15 і 24 дадаць рознасць лікаў 60 і 15.

**3** У Наташы, Тані і Светы было па 12 сшыткаў. Кожная з дзяўчынак купіла яшчэ па 4 сшыткі. Колькі ўсяго сшыткаў стала ў дзяўчынак? Што абазначаюць выразы:

12 + 12 + 12; 4 + 4 + 4?

**4** Складзі прыклады і рашы іх.




**5*** Алесю 13 гадоў. Маша старэйшая за Алеся на 5 гадоў, а Мікола маладзейшы за Машу на 3 гады. Хто самы старэйшы? Колькі гадоў Машы? Міколу?

**6** Разгледзь фігуры на рысунку. Назаві нумары прамавугольнікаў і непрамавугольнікаў.




**7** ><=

1 дм 2 см * 12 см  
2 м 5 дм * 2 м 5 см  
1 г 30 мін * 90 мін  
70 мін * 1 г 10 мін

**8** У школьны буфет прывезлі 18 кг мандарынаў і столькі ж апельсінаў. Бананаў прывезлі на 20 кг больш, чым мандарынаў і апельсінаў разам. Колькі кілаграмаў бананаў прывезлі ў буфет?

**9** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 37 + 12 | 28 + 41 | 46 – 23 | 98 – 15 |
| 37 + 13 | 28 + 42 | 48 – 25 | 76 – 19 |
| 37 + 14 | 28 + 43 | 50 – 23 | 84 – 23 |

# Урок 101








$4 + 2 = 6$

$6 - 2 = 4$

$6 - 4 = 2$

**Складанне правяраецца адніманнем:** калі ад сумы адняць адно складаемае, то атрымаецца другое складаемае.

**1** Выканай складанне і зрабі праверку.

| | | |
|---|---|---|
| 45 + 9 | 36 + 12 | 27 + 13 |
| 24 + 32 | 43 + 35 | 64 + 15 |
| 54 + 37 | 53 + 19 | 48 + 38 |




**2** Алоўкаў і ручак купілі столькі, колькі альбомаў. Колькі купілі ручак?

28









80

**3** Выпішы лікавыя выразы так, каб іх значэнні 81, 36, 57, 10, 15, 20 ішлі па нарастанні.

| | | |
|---|---|---|
| 20 + 0 | 54 – 4 – 40 | 62 – 12 + 7 |
| 45 – 30 | (29 – 3) + 10 | 90 + 4 – 13 |

**4** Нарысуй прамавугольнік, шырыня якога — 2 см, а даўжыня — на 5 см большая. Знайдзі перыметр гэтага прамавугольніка.

**5*** За 4 мін бервяно распілавалі на паўметровыя кавалкі, прычым кожнае распілоўванне займала 1 мін. Знайдзі даўжыню бервяна.

**6** Разгледзь фігуры на рысунку. Назаві нумары квадратаў і неквадратаў.




**7** Сталяр павінен сабраць 28 табурэтак. Пасля таго як ён сабраў некалькі табурэтак, яму засталося сабраць яшчэ 19. Колькі табурэтак ужо сабраў сталяр?

**8** Складзі задачу па табліцы і рашы яе.

| Было | Выдалі | Засталося |
|---|---|---|
| 100 кніг | 34 і 23 кнігі | ? |

**9** Выканай складанне і зрабі праверку.

75 + 18    35 + 65    32 + 64    30 + 47
42 + 19    82 + 17    76 + 19    86 + 12

# Урок 102



$7 - 2 = 5$
$5 + 2 = 7$
$7 - 5 = 2$

Адніманне можна праверыць дзеяннямі складання або аднімання.

Калі да рознасці дадаць аднімаемае, то атрымаецца памяншаемае.
Калі ад памяншаемага адняць рознасць, то атрымаецца аднімаемае.

**1** Рашы прыклады і зрабі праверку.

78 – 9 54 – 12 67 – 18 80 – 14

**2** Складзі і рашы задачу.

| Было | З'елі | Засталося |
|---|---|---|
| 27 | ? | 18 |

**3** ± 

84 * 20 * 6 = 70
45 * 35 * 50 = 30
13 * 4 > 18 * 9

63 * 40 * 7 = 30
28 * 72 * 60 = 40
2 * 6 > 11 * 5

**4** Каля школы расце 13 таполяў і столькі ж ліп. Вучні абкапалі 20 дрэў. Колькі дрэў засталося абкапаць?

**5*** Тром сынам: Алегу, Мікіту і Барысу — мама купіла розныя кашулі: аднаму — шэрую, другому — зялёную, трэцяму — сінюю. Барысу была куплена не сіняя кашуля, Алегу — не сіняя і не зялёная. У каго якая кашуля?



**6** Напішы патрэбныя лічбы і лікі.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ✿3 | 1✿ | 64 | ✿8 | 69 | 74 |
| + 4✿ | + ✿7 | + ✿✿ | − 34 | − ✿✿ | − 3✿ |
| 78 | 65 | 99 | 24 | 23 | ✿9 |

**7** Вылічы: 72 – 14. Як зменіцца рознасць, калі памяншаемае павялічыць на 10, а аднімаемае павялічыць на 5?

**8** На камбінат прывезлі 48 мяхоў пшаніцы і два разы па 15 мяхоў жыта. Колькі ўсяго мяхоў зерня прывезлі на камбінат?

**9** Выканай складанне і адніманне. Правер.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 84 | 17 | 29 | 100 | 90 |
| − 79 | + 36 | + 63 | − 26 | − 49 |

# Урок 103



1 дм 2 см + 21 см = ☐ см

1 дм 2 см = 12 см

33 см = 3 дм 3 см

$$\begin{array}{r} + \begin{array}{r} 12 \\ 21 \end{array} \\ \hline 33 \end{array}$$

**1** Вылічы.

2 дм 5 см + 9 см
4 дм 4 см + 44 см
18 см + 3 дм 2 см

70 см + 22 см
6 дм + 20 см
5 дм + 13 см

**2** Колькі разоў можна адрэзаць па 45 см?




**3**  56 – 30 * 65 – 30
20 + 16 + 12 * 16 + 20 +13
80 – 42 * 80 – (40 + 2)
11 + 10 + 19 * 10 + 11 + 12
85 – 40 * 58 – 40
60 – (30 + 7) * 60 – 37

**4** У калекцыі Валі 12 мінералаў. Дзяўчынка падарыла 4 мінералы, а сабе набыла яшчэ некалькі. Цяпер у яе калекцыі стала 10 мінералаў. Колькі мінералаў набыла Валя?

**5** Знайдзі памылкі ў рашэнні прыкладаў і запішы правільна.

$$\begin{array}{r} -\,95 \\ 9 \\ \hline 76 \end{array} \qquad \begin{array}{r} -\,80 \\ 12 \\ \hline 68 \end{array} \qquad \begin{array}{r} +\,46 \\ 23 \\ \hline 69 \end{array} \qquad \begin{array}{r} +\,55 \\ 29 \\ \hline 94 \end{array} \qquad \begin{array}{r} +\,74 \\ 16 \\ \hline 90 \end{array}$$

**6*** Віні Пуху падарылі на дзень нараджэння бочачку з мёдам у 7 кг. Калі ён з'еў палавіну мёду, то маса бочачкі з мёдам стала 4 кг. Колькі кілаграмаў мёду было ў бочачцы спачатку?




**7** На склад прывезлі 23 мяхі гароху, а фасолі — на 6 мяхоў менш. Колькі ўсяго мяхоў гароху і фасолі прывезлі на склад?

**8** Пастаў дужкі так, каб роўнасці сталі правільнымі.

$20 - 6 - 4 = 18$  
$30 - 5 + 2 = 27$  
$8 + 30 - 6 = 32$  
$9 - 12 - 4 = 1$  
$6 + 7 - 4 = 9$  
$20 - 8 + 8 = 4$

# Урок 104



1 дм 2 см + 21 см = ☐ см

1 дм 2 см = 12 см

33 см = 3 дм 3 см




**1** Вылічы.

25 см – 14 см
63 см – 37 см
27 см + 27 см

5 дм 7 см – 1 дм 3 см
7 дм 8 см – 36 см
30 см + 18 см

**2** На экскурсію ў трох аўтобусах паехала 97 вучняў. У першым аўтобусе ехала 29 вучняў, у другім — 32. Колькі вучняў ехала ў трэцім аўтобусе?

Рашы задачу рознымі спосабамі.




**3** Даўжыня прамавугольніка — 1 дм 7 см, а шырыня — 9 см. Знайдзі перыметр прамавугольніка.

**4*** У Галі 28 паштовак, а ў Любы — 36. Колькі паштовак Люба павінна аддаць Галі, каб у дзяўчынак стала паштовак пароўну?

**5** Складзі прыклады і рашы іх.




**6** Запішы прапушчаныя лічбы так, каб роўнасці сталі правільнымі.

| | |
|---|---|
| 5 ☐ – 9 = 41 | 100 – 1 ☐ = 90 |
| 44 + ☐ 3 = 67 | ☐ 2 + 14 = 96 |
| 6 ☐ + 7 = 69 | 5 ☐ – 3 ☐ = 20 |

**7** Запішы лікі 43, 84, 25, 63 сумай разрадных складаемых.

**8** Падчас спаборніцтваў па гульні ў шашкі Косця выйграў 6 партый, а прайграў 2. Колькі партый ён згуляў унічыю, калі ўсяго ён згуляў 12 партый?

**9** Вылічы ў слупок.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 90 – 73 | 80 – 54 | 90 – 46 | 30 – 11 |
| 40 – 24 | 30 – 16 | 100 – 83 | 60 – 37 |

# Множанне і дзяленне



Колькі качаноў капусты на рысунку?

1) Колькі радкоў па 3 качаны?

$3 + 3 + 3 + 3 = 12$

$3 \cdot 4 = 12$






2) Колькі слупкоў па 4 качаны?

$4 + 4 + 4 = 12$

$4 \cdot 3 = 12$

Адказ: 12 качаноў.

Множанне — гэта складанне аднолькавых складаемых. Знак множання — ( · ).

**1** Замяні складанне множаннем.

$2 + 2 + 2 + 2 + 2$ $\quad 4 + 4 + 4$ $\quad 8 + 8 + 8$

$3 + 3 + 3 + 3 + 3$ $\quad 5 + 5 + 5$ $\quad 9 + 9 + 9$

**2** Замяні множанне складаннем.

$3 \cdot 5$ $\quad 6 \cdot 2$ $\quad 2 \cdot 4$ $\quad 4 \cdot 5$ $\quad 3 \cdot 3$ $\quad 2 \cdot 7$

$4 \cdot 4$ $\quad 5 \cdot 3$ $\quad 7 \cdot 2$ $\quad 1 \cdot 3$ $\quad 4 \cdot 3$ $\quad 2 \cdot 6$

**3** Колькі арэхаў у дзвюх гронках? У трох гронках?



**4*** Вася і Вова — блізняты. Ім па 9 гадоў. Іх бацька на 24 гады старэйшы. Колькі гадоў бацьку?

**5** Швейная майстэрня зрасходавала за дзень 25 м паркалю, а шаўковай тканіны — на 12 м больш. Колькі ўсяго метраў тканіны зрасходавала швейная майстэрня за дзень?

**6** На «ўваход машыны» падалі лікі 5, 12, 15, 40, 52. Складзі прыклады і рашы іх. Назаві лікі на «выхадзе».




**7** З трох авечак настрыглі 23 кг воўны: з першай — 6 кг, з другой — 8 кг. Колькі кілаграмаў воўны настрыглі з трэцяй авечкі?

**8** Замяні складанне множаннем, а множанне складаннем.

| | | | |
|---|---|---|---|
| $6 + 6 + 6$ | $5 \cdot 3$ | $7 \cdot 2$ | $2 \cdot 7$ |
| $1 + 1 + 1$ | $6 \cdot 4$ | $1 \cdot 4$ | $3 \cdot 9$ |

## Урок 106

**1** Замяні, дзе магчыма, складанне множаннем.

| | | |
|---|---|---|
| 3 + 3 + 3 + 3 | 7 + 3 + 8 | 2 + 2 + 2 |
| 25 + 25 + 25 | 4 + 4 + 9 | 5 + 3 + 5 |
| 1 + 1 + 1 + 1 | 25 + 41 + 41 | 4 + 4 + 9 |
| 0 + 0 + 0 + 0 | 26 + 26 + 32 | 4 + 4 + 4 |

**2** Колькі ног у двух сабак? У трох сабак?



**3** У Машы ў гербарыі 20 раслін. У Паліны — 15. У Дашы на 11 раслін больш, чым у Машы і Паліны разам. Колькі раслін у гербарыі ў Дашы?

**4** Замяні множанне складаннем.

| | | | |
|---|---|---|---|
| $4 \cdot 2$ | $5 \cdot 6$ | $7 \cdot 4$ | $9 \cdot 3$ |
| $2 \cdot 2$ | $8 \cdot 2$ | $4 \cdot 5$ | $12 \cdot 2$ |
| $3 \cdot 6$ | $4 \cdot 5$ | $5 \cdot 2$ | $20 \cdot 3$ |

**5*** Андрэй расставіў 14 кніг на 2 паліцы. Калі б на адной паліцы было на 2 кнігі больш, а на другой — на 2 кнігі менш, то на кожнай паліцы кніг было б пароўну. Колькі кніг паставіў Андрэй на кожную паліцу?

**6** На градцы вырасла 37 агуркоў. Раніцай сарвалі 7 агуркоў і некалькі сарвалі вечарам. На градцы застаўся 21 агурок. Колькі агуркоў сарвалі вечарам?

| Вырасла | Сарвалі | Засталося |
|---|---|---|
| 37 | 7 і ? | 21 |

**7** Вусна. Складзі прыклады па схемах і рашы іх.







**8** Агароджа мае форму квадрата, адна старана якога — 10 м. Знайдзі даўжыню агароджы.


10 м

**9** Параўнай, не выконваючы вылічэнняў.

$6 \cdot 2 * 6 \cdot 4$ $\quad$ $2 \cdot 6 * 2 \cdot 5$

$3 \cdot 7 * 3 \cdot 8$ $\quad$ $8 \cdot 2 * 8 \cdot 3$

**10** У Вольгі ў альбоме 25 фатаграфій, у Лены — 16, а ў Веры — на 12 больш, чым у Вольгі і Лены разам. Колькі фатаграфій у Веры?

# Урок 107



Множнік — Множнік — Здабытак

$$5 \cdot 2 = 10$$

Здыбытак лікаў 5 і 2

**1** Прачытай выразы. Замяні здабытак сумай лікаў і вылічы.

Узор. $8 \cdot 2 = 8 + 8 = 16$

$6 \cdot 4$ $13 \cdot 3$ $11 \cdot 2$ $0 \cdot 4$ $17 \cdot 2$

**2** Вусна. У прыкладах на множанне назаві здабыткі.

$13 + 18 = 31$ $4 \cdot 3 = 12$ $7 \cdot 2 = 14$

**3** У кнізе 46 аркушаў, а ў часопісе — 22. На колькі аркушаў часопіс танчэйшы за кнігу?

**4** Складзі задачу па табліцы і рашы яе.

| Было | Узялі | Далілі | Стала |
|---|---|---|---|
| 40 вёдзер | 29 вёдзер | 26 вёдзер | ? |

**5*** Бацька з сынамі каталіся на веласіпедах — трохколавых і двухколавых. Усяго было 7 колаў. Колькі было трохколавых веласіпедаў? Колькі ў бацькі сыноў?



**6** (>, <, =)

| | |
|---|---|
| 52 см * 5 дм 1 см | 72 – 8 * 72 – 10 |
| 7 дм * 6 дм 9 см | 35 + 16 * 35 + 18 |
| 83 см * 8 дм 3 см | 86 – 15 * 86 – 27 |

**7** Вылічы ў слупок.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 18 + 72 | 58 – 15 | 17 + 19 | 16 + 27 |
| 28 + 19 | 78 – 17 | 37 + 16 | 53 + 18 |
| 68 + 15 | 58 + 14 | 57 + 29 | 100 – 12 |

**8** Нарысуй тры адрэзкі, даўжыні якіх: 1 дм; 5 см; 1 дм 5 см. Колькі разоў найменшы адрэзак укладваецца ў кожным з астатніх адрэзкаў?

**9** У чатырох класах на пачатку года было 88 вучняў. На працягу года ў кожны клас прыйшло яшчэ па 3 вучні. Колькі ўсяго вучняў прыйшло? Колькі вучняў стала?

**10** (>, <, =)

| | | |
|---|---|---|
| 48 * 76 | 26 * 54 | 81 – 5 * 81 – 7 |
| 35 * 61 | 19 * 43 | 66 + 7 * 66 – 7 |

## Урок 108



$6 \cdot 2 = 2 \cdot 6$



Колькі кружкоў у адным радку? Колькі радкоў? Колькі ўсяго кружкоў?



Колькі кружкоў у адным слупку? Колькі слупкоў? Колькі ўсяго кружкоў?

**Ад перастаноўкі множнікаў здабытак не змяняецца.**

**1** Параўнай, не выконваючы вылічэнняў.

$7 \cdot 2 * 2 \cdot 7$ $3 \cdot 8 * 8 \cdot 3$ $9 \cdot 3 * 3 \cdot 9$

$2 \cdot 10 * 10 \cdot 2$ $3 \cdot 7 * 3 \cdot 6$ $2 \cdot 5 * 2 \cdot 6$

**2** Вылічы, колькі цюльпанаў і колькі нарцысаў. Параўнай, якіх кветак больш.





**3*** Хлопчык прачытаў 20 старонак і яшчэ палавіну кнігі. Колькі старонак у кнізе? Ці дачытаў хлопчык кнігу да канца?

**4** Калі Лена з’ела 11 клубніц, а Таня — 8, то ў кожнай дзяўчынкі засталося па 6 клубніц. Колькі ягад было ў кожнай дзяўчынкі спачатку?

**5** Вусна. Які лік трэба дадаць да 70, каб атрымаць суму лікаў 80 і 8?

**6** Пастаў дужкі так, каб усе роўнасці сталі правільнымі.

| | |
|---|---|
| $80 - 12 + 8 = 60$ | $12 - 8 + 46 = 50$ |
| $55 - 8 + 7 = 40$ | $70 - 4 + 36 = 30$ |
| $35 + 35 - 70 = 0$ | $80 - 23 + 7 = 50$ |

**7** Бабуля прынесла 3 дзясяткі яблыкаў і 7 груш. Калі некалькі штук садавіны з’елі, то засталося 2 дзясяткі штук садавіны. Колькі штук садавіны з’елі?

**8** Нарысуй квадрат са стараной 5 см. Знайдзі яго перыметр.

**9** У адным пакеце 13 цукерак, а ў другім — на 17 больш. Колькі цукерак у двух пакетах?

**10** Аднаві прыклады.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 4✽ | ✽9 | 6✽ | 5✽ | ✽✽ |
| + 23 | + 45 | + 13 | + ✽3 | + 34 |
| 68 | 84 | 80 | 97 | 81 |

# Урок 109





$\underline{2 \cdot 2 = 4}$

$2 \cdot 3 = 4 + 2 = 6$

$2 \cdot 4 = 6 + 2 = 8$

**1** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| $2 \cdot 4 = 8$ | $2 \cdot 5 = 10$ | $2 \cdot 6 = 12$ | $2 \cdot 7 = 14$ |
| $2 \cdot 5 = \square$ | $2 \cdot 6 = \square$ | $2 \cdot 7 = \square$ | $2 \cdot 8 = \square$ |

**2** Падчас гульні ў баскетбол каманда першай школы выйграла ў каманды другой з лікам 80 : 63. На колькі больш ачкоў набрала каманда першай школы, чым каманда другой?

**3** Замяні здабыткі сумамі лікаў, а сумы — здабыткамі.

| | | | |
|---|---|---|---|
| $27 \cdot 2$ | $2 \cdot 6$ | $5 + 5 + 5$ | $15 + 15 + 15 + 3$ |
| $34 \cdot 2$ | $3 \cdot 4$ | $14 + 14 + 14$ | $16 + 16 + 18$ |

**4** Мама зварыла вішнёвае варэнне і пералажыла яго ў 2 слоікі, па 3 л у кожным. Колькі літраў вішнёвага варэння зварыла мама?

**5** Параўнай, не выконваючы вылічэнняў.

| | | |
|---|---|---|
| $2 + 2 + 2 * 2 \cdot 3$ | $2 + 2 * 2 \cdot 3$ | $2 \cdot 4 * 2 + 2$ |
| $4 + 4 * 4 \cdot 3$ | $5 + 5 * 5 \cdot 3$ | $3 \cdot 2 * 3 + 3$ |

**6*** Якая даўжыня алоўка; лінейкі?




**7** Складзі прыклады і рашы іх.







**8** Падлічы колькі сініх і колькі чырвоных шарыкаў.



**9** У бочцы было 86 літраў алею. У бутэлькі разлілі некаторую колькасць літраў. У бочцы засталося 50 літраў. Колькі літраў алею разлілі ў бутэлькі?

**10** Вылічы.

1 дм 5 см + 25 см = ☐ 1 г 20 мін – 15 мін = ☐

35 см + 65 см = ☐ 40 мін – 20 мін = ☐



$$2 \cdot 7 = 2 \cdot 5 + 2 \cdot 2 = 10 + 4 = 14$$

$5 + 2$




**1** Запоўні пустыя акенцы.

$2 \cdot 8 = 2 \cdot 5 + 2 \cdot \square$ $\quad$ $2 \cdot 8 = 2 \cdot 4 + 2 \cdot \square$

$2 \cdot 9 = 2 \cdot 5 + 2 \cdot \square$ $\quad$ $2 \cdot 7 = 2 \cdot \square + 2 \cdot 4$

**2** Колькі гузікаў спатрэбіцца на 2 такія блузы?



**3**

$$\begin{array}{r} + \; 69 \\ 24 \\ \hline \end{array} \qquad \begin{array}{r} - \; 76 \\ 59 \\ \hline \end{array} \qquad \begin{array}{r} 25 \\ + \; 32 \\ 34 \\ \hline \end{array} \qquad \begin{array}{r} 18 \\ + \; 63 \\ 11 \\ \hline \end{array} \qquad \begin{array}{r} + \; *8 \\ 6* \\ \hline 80 \end{array}$$

**4** У садзе сабралі 12 кг малін, 15 кг агрэсту, а парэчак — на 5 кг менш, чым малін і агрэсту разам. Колькі кілаграмаў парэчак сабралі ў садзе?

**5*** На талерцы 5 шакаладных цукерак і 8 карамелек. Пасля таго як Каця ўзяла тых і другіх цукерак пароўну, на талерцы засталіся цукеркі аднаго віду. Якія цукеркі засталіся?

**6** Запішы лікі, у якіх: 7 дзяс.; 8 дзяс. 8 адз.; 3 адз. 2 дзяс. Паменшы кожны з лікаў на 2 дзясяткі.

**7** (> < =)

| | | |
|---|---|---|
| 25 * 61 | 21 – 7 * 21 – 8 | 2 · 6 * 2 · 9 |
| 15 * 51 | 55 + 7 * 55 – 7 | 34 · 2 * 15 · 2 |

**8** Знайдзі перыметр прамавугольніка.




**9** Калі ў вядро далілі 15 шклянак малака, а з бітона адлілі 5 шклянак, то разам у бітоне і ў вядры стала 55 шклянак малака. Колькі ўсяго шклянак малака было ў бітоне і вядры спачатку?




**10** Колькі спатрэбіцца падкоў, каб падкаваць 2 коней?

**11** Выканай складанне і зрабі праверку.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 49 + 20 | 39 + 42 | 60 + 27 | 45 + 19 |
| 58 + 21 | 19 + 51 | 23 + 29 | 56 + 9 |

## Урок 111



Растлумач прыёмы складання табліцы множання ліку 2.

$2 \cdot 2 = 2 + 2 = 4$
$2 \cdot 3 = 2 + 2 + 2 = 6$
$2 \cdot 4 = 6 + 2 = 8$
$2 \cdot 5 = 8 + 2 = 10$
$2 \cdot 6 = 10 + 2 = 12$
$2 \cdot 7 = 2 \cdot 5 + 2 \cdot 2 = 10 + 4 = 14$
$2 \cdot 8 = 2 \cdot 5 + 2 \cdot 3 = 10 + 6 = 16$
$2 \cdot 9 = 2 \cdot 5 + 2 \cdot 4 = 10 + 8 = 18$

$2 \cdot 2 = 4$
$2 \cdot 3 = 6$
$2 \cdot 4 = 8$
$2 \cdot 5 = 10$
$2 \cdot 6 = 12$
$2 \cdot 7 = 14$
$2 \cdot 8 = 16$
$2 \cdot 9 = 18$

**1** Параўнай, не выконваючы вылічэнняў.

$2 \cdot 8$ * $8 \cdot 2$ $2 \cdot 3$ * $3 \cdot 2$ $2 \cdot 9$ * $9 \cdot 2$
$2 \cdot 6$ * $6 \cdot 2$ $2 \cdot 4$ * $5 \cdot 2$ $2 \cdot 8$ * $9 \cdot 2$

**2** У адным наборы 24 фламастары, у другім — столькі ж. Колькі фламастараў у двух наборах?




**3*** Ёсць тры мячы. Аранжавы мяч цяжэйшы за блакітны, а блакітны — цяжэйшы за жоўты. Які мяч самы цяжкі, а які самы лёгкі?



4 Складзі задачу па рысунку і рашы яе.



5 На клумбе расцвілі 50 цюльпанаў. На адзін букет зрэзалі 7 кветак, а на другі — 5. Колькі цюльпанаў засталося на клумбе?

6 Колькі разоў найменшая старана чатырохвугольніка змесціцца на чорным адрэзку?



7 Размясці велічыні па нарастанні:
25 см; 2 дм 7 см; 3 дм; 1 м;
4 дм 1 см.

8 На кожную сукенку патрабуецца 2 м тканіны. Колькі метраў тканіны спатрэбіцца на 4 такія сукенкі? На 6 сукенак?



9 Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 29 – 5 + 6 | 27 + 34 – 14 | 17 + 3 – 5 |
| 38 + 2 – 4 | 18 + 12 + 40 | 16 – 6 – 9 |
| 38 + 17 – 8 | 13 + 47 + 38 | 56 – 28 – 6 |
| 51 – 17 – 11 | 31 – 11 + 80 | 43 + 17 – 33 |

## Урок 112



Растлумач прыём складання табліцы множання на лік 2.

$3 \cdot 2 = 2 \cdot 3 = 6$
$4 \cdot 2 = 2 \cdot 4 = 8$
$5 \cdot 2 = 2 \cdot 5 = 10$
$6 \cdot 2 = 2 \cdot 6 = 12$
$7 \cdot 2 = 2 \cdot 7 = 14$
$8 \cdot 2 = 2 \cdot 8 = 16$
$9 \cdot 2 = 2 \cdot 9 = 18$

$3 \cdot 2 = 6$
$4 \cdot 2 = 8$
$5 \cdot 2 = 10$
$6 \cdot 2 = 12$
$7 \cdot 2 = 14$
$8 \cdot 2 = 16$
$9 \cdot 2 = 18$

**1** У кнізе адно апавяданне займае 31 старонку, а другое — на 13 старонак менш. Колькі старонак займаюць два апавяданні?




**2** На «ўваход машыны» падаюць лікі 2, 3, 4, 5, 6. Складзі прыклады і рашы іх.




**3*** Нарысуй два адрэзкі так, каб адзін быў даўжэйшы за другі на 2 см, а сума іх даўжынь была роўна 14 см.

**4** На талерцы было 12 сліў. Рыгор узяў тры пары сліў, а Глеб — дзве тройкі сліў. Хто з хлопчыкаў узяў больш сліў?



**5** Пастаў дужкі так, каб атрымаліся правільныя роўнасці.

62 – 50 – 35 = 47        80 – 40 + 30 = 10
30 – 30 + 5 = 5        80 – 50 – 20 = 50

**6** Адзін хлопчык прайшоў да сустрэчы 27 м, другі — на 29 м больш. Якой была адлегласць паміж хлопчыкамі спачатку?




**7** У аднаго трактара 4 колы. Колькі колаў у двух трактароў?



**8** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 35 + 24 | 9 · 2 | 54 – 11 + 5 | 2 · 7 |
| 49 – 16 | 8 · 2 | 44 + 31 + 20 | 2 · 5 |
| 75 + 13 | 2 · 6 | 88 – 23 – 15 | 4 · 2 |

# Урок 113




$3 \cdot 2 = 6$
$2 \cdot 3 = 6$

Расклалі па дзве грушы.



$6 : 2 = 3$

Падзялілі пароўну на дзве часткі.



$6 : 2 = 3$

Запіс $6 : 2 = 3$ чытай так:
6 падзяліць на 2, атрымаецца 3.
Знак дзялення — (:).

**1** 1) Ніна расклала 10 піражных на 2 талеркі пароўну. Колькі піражных на адной талерцы?



2) 10 піражных раздалі дзецям, па 2 кожнаму. Колькі дзяцей атрымалі піражныя?



Чым падобныя задачы? Чым яны адрозніваюцца?

**2** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 40 – (5 + 6) | (18 + 2) – 20 | 90 – 67 |
| (46 + 4) – 35 | (64 + 34) – 15 | 39 + 47 |
| (58 – 8) + 17 | (84 – 18) – 6 | 100 – 12 |

**3*** У Васі было 50 марак. Серыю «Спорт» з 12 марак ён абмяняў на 9 марак серыі «Космас». Колькі марак засталося ў Васі?

**4** У басейне было 43 чалавекі. З іх — 15 дзяцей, а астатнія — дарослыя. Каго было менш і на колькі?

**5** Ці правільна?

| | | |
|---|---|---|
| 22 < 53 – 38 | 98 – 59 > 40 | 23 > 99 – 77 |
| 17 + 29 > 49 | 76 < 92 – 16 | 83 < 35 + 57 |

**6** Да чаю кожны з дзяцей атрымаў па 2 глазураваныя сыркі. Колькі дзяцей у сям'і?



**7** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 82 – (32 + 30) | 100 – (18 – 9) | 90 – (15 + 45) |
| 69 + (36 – 36) | 100 – (49 – 10) | 80 – (11 + 19) |
| 91 – (45 + 46) | 100 – (23 + 27) | 70 – (12 + 18) |

## Урок 114



Дзялімае — 6, Дзельнік — 3, Дзель — 2

$6 : 3 = 2$

Дзель лікаў 6 і 3

**1** Палоску даўжынёй 10 см разрэзалі на 2 роўныя часткі. Якая даўжыня кожнай часткі?



**2** У пакетах па 2 кг знаходзіцца 14 кг мукі. Колькі такіх пакетаў?




**3*** Бяроза вышэйшая за елку на 11 м, а сасна вышэйшая за бярозу на 2 м. На колькі метраў сасна вышэйшая за елку?



**4** Замяні здабыткі лікаў сумай і вылічы.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| $10 \cdot 3$ | $20 \cdot 2$ | $8 \cdot 3$ | $11 \cdot 3$ | $40 \cdot 2$ |
| $5 \cdot 4$ | $7 \cdot 4$ | $9 \cdot 4$ | $4 \cdot 3$ | $50 \cdot 2$ |
| $14 \cdot 2$ | $23 \cdot 3$ | $31 \cdot 2$ | $42 \cdot 2$ | $30 \cdot 2$ |

**5** Бабуля дала ўнукам 4 піражкі з тварагом і 8 — з яблыкамі. Засталося 18 піражкоў. Колькі піражкоў спякла бабуля?

**6** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 27 + 58 | 85 – 19 + 25 | 97 – (25 – 4) |
| 86 – 39 | 100 – 37 – 24 | 89 – (37 – 7) |
| 61 – 44 | 100 – 64 – 23 | 100 – (18 + 24) |
| 80 – 16 | 47 + 44 – 35 | 63 + (27 – 7) |

**7** 7 дзяс. = ☐ адз.
6 дзяс. 5 адз. = ☐ адз.
1 г 15 мін = ☐ мін
3 дм 5 см = ☐ см
60 см = ☐ дм
75 мін = ☐ г ☐ мін

**8** 49 вучняў з трох класаў выйшлі на ўборку школьнай тэрыторыі. Вучняў першага класа было 13, вучняў другога класа — 17. Колькі вучняў трэцяга класа выйшла на ўборку?

**9** (> < =)
1 м * 1 дм
1 м * 1 см
9 дм * 95 см
2 дм * 20 см
3 дм * 39 см
2 см * 2 дм 2 см
8 дм 8 см * 88 см
6 дм 7 см * 76 см

# Урок 115





$5 \cdot 2 = 10$



$10 : 2 = 5$ $10 : 5 = 2$

З кожнага прыкладу на множанне можна скласці два прыклады на дзяленне.

**1** Складзі прыклады на дзяленне.

$2 \cdot 9 = 18$ $2 \cdot 4 = 8$ $8 \cdot 2 = 16$ $7 \cdot 2 = 14$

**2** На адну куртку пайшло 2 м тканіны. Колькі метраў тканіны спатрэбіцца на дзве такія курткі?

Складзі адваротныя задачы і рашы іх.

| На адну куртку | Колькасць куртак | Усяго метраў |
|---|---|---|
| 2 м | 2 | ? |
| 2 м | ? | 4 м |
| ? | 2 | 4 м |



**3** Знайдзі даўжыні адрэзкаў.



**4*** Знайдзі заканамернасць і запішы прапушчаныя лікі.

7, 12, 17, 22, 27, 32, 37, □, □, □;

□, □, □, 45, 40, 35, □.

**5** Складзі прыклады па табліцы і рашы іх.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Складаемае | 43 | | 40 | 30 | 5 | | 34 | |
| Складаемае | 18 | 11 | 15 | | | 65 | 66 | 20 |
| Сума | | 50 | | 75 | 45 | 90 | | 100 |

**6** Якія лічбы трэба паставіць у акенцы, каб запісы сталі правільнымі?

7□ = 7□  6□ < 61  49 = 4□ + 9

□5 > 85  □5 = 50 + □  □6 > 6□

**7** На дзвюх старонках падручніка 20 прыкладаў і 5 задач. За ўрок вучні выканалі 18 заданняў. Колькі заданняў ім засталося выканаць?

**8** Вылічы.

27 + 48  26 + 34 – 15  83 – 24 + 41

91 – 26  76 – 26 + 18  37 + 48 – 57

## Урок 116



Растлумач, як складзены табліцы дзялення на 2 і з дзеллю 2.

| | | |
|---|---|---|
| $2 \cdot 1 = 2$ | $2 : 2 = 1$ | $2 : 1 = 2$ |
| $2 \cdot 2 = 4$ | $4 : 2 = 2$ | $4 : 2 = 2$ |
| $2 \cdot 3 = 6$ | $6 : 2 = 3$ | $6 : 3 = 2$ |
| $2 \cdot 4 = 8$ | $8 : 2 = 4$ | $8 : 4 = 2$ |
| $2 \cdot 5 = 10$ | $10 : 2 = 5$ | $10 : 5 = 2$ |
| $2 \cdot 6 = 12$ | $12 : 2 = 6$ | $12 : 6 = 2$ |
| $2 \cdot 7 = 14$ | $14 : 2 = 7$ | $14 : 7 = 2$ |
| $2 \cdot 8 = 16$ | $16 : 2 = 8$ | $16 : 8 = 2$ |
| $2 \cdot 9 = 18$ | $18 : 2 = 9$ | $18 : 9 = 2$ |










Якія лікі схаваныя?

$7 \cdot \square = 14$ $\square \cdot 2 = 16$ $\square : 2 = 5$

**1** У веласіпеда — 2 колы. Колькі колаў у 6 такіх веласіпедаў?

**2** (>, <, =)

$2 \cdot 9 * 8 \cdot 2$ $2 \cdot 3 + 2 \cdot 2 * 2 \cdot 6$

$7 \cdot 2 * 2 \cdot 6$ $7 \cdot 2 * 2 \cdot 3 + 4 \cdot 2$

$2 \cdot 7 * 7 \cdot 2$ $9 \cdot 2 * 2 \cdot 5 + 2 \cdot 4$

**3*** Віцю 12 гадоў, а Паўлу — 9. Колькі гадоў было Віцю, калі Паўлу было 4 гады?

**4** Складзі задачу па рысунку і рашы яе.




**5** Вылічы.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 4 · 2 | 5 · 2 | 6 · 2 | 2 · 7 | 2 · 9 |
| 8 : 2 | 10 : 5 | 12 : 6 | 14 : 2 | 18 : 2 |
| 8 : 4 | 10 : 2 | 12 : 2 | 14 : 7 | 18 : 9 |

**6** К канцу дня ў булачнай засталося 27 батонаў, а рагалікаў на 14 больш. Колькі хлебабулачных вырабаў засталося ў булачнай?




**7** (>, <, =)

| | | | |
|---|---|---|---|
| 48 * 76 | 26 * 54 | 81 * 57 | 48 * 96 |
| 35 * 61 | 19 * 43 | 66 * 28 | 72 * 49 |
| 64 * 58 | 35 * 38 | 33 * 32 | 24 * 15 |
| 74 * 58 | 65 * 38 | 17 * 32 | 63 * 15 |

# Урок 117



Растлумач, як складзена табліца множання ліку 3.

$3 \cdot 2 = 3 + 3 = 6$
$3 \cdot 3 = 3 + 3 + 3 = 9$
$3 \cdot 4 = 9 + 3 = 12$
$3 \cdot 5 = 12 + 3 = 15$
$3 \cdot 6 = 15 + 3 = 18$
$3 \cdot 7 = 3 \cdot 5 + 3 \cdot 2 = 15 + 6 = 21$
$3 \cdot 8 = 3 \cdot 5 + 3 \cdot 3 = 15 + 9 = 24$
$3 \cdot 9 = 3 \cdot 5 + 3 \cdot 4 = 15 + 12 = 27$

$3 \cdot 2 = 6$
$3 \cdot 3 = 9$
$3 \cdot 4 = 12$
$3 \cdot 5 = 15$
$3 \cdot 6 = 18$
$3 \cdot 7 = 21$
$3 \cdot 8 = 24$
$3 \cdot 9 = 27$

**1** Параўнай прыклады і вылічы здабыткі.

| | | | |
|---|---|---|---|
| $3 \cdot 2 = 6$ | $3 \cdot 4 = 12$ | $3 \cdot 9 = 27$ | $3 \cdot 6 = \square$ |
| $3 \cdot 3 = \square$ | $3 \cdot 5 = \square$ | $3 \cdot 8 = \square$ | $3 \cdot 7 = \square$ |

**2** У адным пакеце 3 кг лімонаў. Колькі кілаграмаў лімонаў у трох такіх пакетах? У чатырох?

**3** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| $(61 + 19) - 12$ | $(21 + 49) - 12$ | $100 - (15 + 25)$ |
| $(87 - 37) - 9$ | $(81 - 21) - 7$ | $43 - (18 - 5)$ |

**4** У кросе прынялі ўдзел 26 вучняў аднаго класа і столькі ж вучняў другога. Хлопчыкаў было 29. Колькі дзяўчынак прынялі ўдзел у кросе?

**5*** Дзве бочкі па 20 вёдзер вады злучаны знізу трубой. Колькі вады застанецца ў дзвюх бочках, калі з першай бочкі ўзяць 6 вёдзер вады? Колькі вады застанецца ў кожнай бочцы?




**6** Расстаў дужкі і замест зорачак патрэбныя знакі дзеянняў так, каб няроўнасці сталі правільнымі.

$76 * 20 * 6 = 50$ $\qquad$ $88 * 64 * 4 = 28$

**7** Колькі вішань будзе на пяці такіх галінках? Колькі арэхаў будзе ў шасці такіх гронках?





**8**

$3 \cdot 2 * 3 \cdot 3 - 3$ $\qquad$ $3 \cdot 4 * 3 \cdot 3 + 3$

$3 \cdot 4 * 4 \cdot 3$ $\qquad$ $5 \cdot 2 * 5 \cdot 3 - 5$

5 дм 5 см * 50 см $\qquad$ 3 дм * 31 см

4 дм 4 см * 45 см $\qquad$ 8 дм * 79 см

# Урок 118



$3 \cdot 5 = 5 \cdot 3$

Складзі табліцу множання на лік 3.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 0 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | $\cdot 3$ |

**1** Колькі трэба маткоў воўны, каб звязаць адзін такі джэмпер?




**2** Якіх лікаў не хапае?

$\square : 2 = 9$ $\quad 72 + \square = 76$ $\quad \square - 43 = 26$

$16 : \square = 2$ $\quad 63 - \square = 3$ $\quad 87 - \square = 36$

$20 : \square = 10$ $\quad 35 + \square = 100$ $\quad 42 + \square = 80$

**3*** У двух пучках — 2 дзясяткі радысак. Калі з аднаго пучка ўзялі 2 радыскі, то ў кожным пучку радысак стала пароўну. Колькі радысак было ў кожным пучку спачатку?




**4** Старана трохвугольніка, у якога ўсе стораны роўныя, — 6 см. Знайдзі перыметр трохвугольніка.



**5** У Тані тры стужкі. Чырвоная мае даўжыню 87 см. Зялёная — на 5 см карацейшая. Сіняя стужка на 10 см карацейшая за зялёную. Якая даўжыня сіняй стужкі?




**6** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 44 + 33 | 9 · 2 | 74 – 31 + 6 | 50 + 16 – 9 |
| 58 – 25 | 8 · 3 | 44 + 31 + 20 | 18 + 18 – 7 |
| 86 – 24 | 2 · 5 | 98 – 33 – 5 | 34 – 17 + 3 |

**7**



Знайдзі даўжыню гэтай ломанай. Нарысуй ломаную такой жа даўжыні, але з двух звёнаў.

**8** Рашы чацвёркі прыкладаў.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 5 · 2 | 7 · 2 | 6 · 2 | 2 · 9 |
| 2 · 5 | 2 · 7 | 2 · 6 | 9 · 2 |
| 10 : 2 | 14 : 2 | 12 : 2 | 18 : 2 |
| 10 : 5 | 14 : 7 | 12 : 6 | 18 : 9 |

# Урок 119



| | | |
|---|---|---|
| $3 \cdot 1 = 3$ | $3 : 3 = 1$ | $3 : 1 = 3$ |
| $3 \cdot 2 = 6$ | $6 : 3 = 2$ | $6 : 2 = 3$ |
| $3 \cdot 3 = 9$ | $9 : 3 = 3$ | $9 : 3 = 3$ |
| $3 \cdot 4 = 12$ | $12 : 3 = 4$ | $12 : 4 = 3$ |
| $3 \cdot 5 = 15$ | $15 : 3 = 5$ | $15 : 5 = 3$ |
| $3 \cdot 6 = 18$ | $18 : 3 = 6$ | $18 : 6 = 3$ |
| $3 \cdot 7 = 21$ | $21 : 3 = 7$ | $21 : 7 = 3$ |
| $3 \cdot 8 = 24$ | $24 : 3 = 8$ | $24 : 8 = 3$ |
| $3 \cdot 9 = 27$ | $27 : 3 = 9$ | $27 : 9 = 3$ |

**1** Складзі прыклады па схемах і рашы іх.










**2** Колькі скачкоў па 2 м трэба зрабіць, каб дасягнуць меткі 12 м?




**3*** Ёсць 5 трохвугольнікаў і некалькі квадратаў. Фігуры маюць 23 вуглы. Колькі сярод гэтых фігур квадратаў?

**4** Запішы выразы і знайдзі іх значэнні:
суму лікаў 49 і 50 паменшыць на 35;
лік 87 паменшыць на суму лікаў 17 і 20;
здабытак лікаў 3 і 9;
дзель лікаў 18 і 3.

**5** Старана квадрата роўна 5 см. Знайдзі перыметр гэтага квадрата пры дапамозе складання. Замяні складанне множаннем.

**6** Запішы прыклады ў сшытку і рашы іх.

| +36 | |
|---|---|
| 37 | |
| 48 | |
| | 55 |
| 25 | |

| •3 | |
|---|---|
| 5 | |
| 4 | |
| | 9 |
| | 6 |

| +18 | |
|---|---|
| | 66 |
| 43 | |
| | 70 |
| 36 | |

| :2 | |
|---|---|
| | 5 |
| 16 | |
| | 2 |
| 18 | |

**7** Сярод вынікаў множання ліку 3 знайдзі лікі, якія дзеляцца на 2.

**8** Купілі 50 сшыткаў. З іх у клетку — 30, а астатнія — у лінейку. На колькі больш купілі сшыткаў у клетку, чым у лінейку?

**9** (>, <, =)
60 мін * 1 г 10 мін
1 дм 16 см * 1 м
6 дм * 1 м
3 м 6 дм * 3 м 9 дм
64 см * 6 дм 4 см
3 дзяс. 7 адз. * 40

# Урок 120

**1** У кожнай авечкі па 4 нагі. Колькі ног у трох авечак? Складзі дзве адваротныя задачы і рашы іх.



**2** (>, <, =)

| | |
|---|---|
| 3 · 5 * 3 · 6 | 2 дм 7 см * 28 см |
| 3 · 7 * 3 · 5 | 1 м 3 дм * 12 дм |
| 2 · 8 * 2 · 7 | 1 г 35 мін * 70 мін |
| 4 · 3 * 4 · 2 | 2 дзяс. 5 адз. * 37 адз. |

**3** У пасёлку пабудавалі 4 двухкватэрныя дамы і 1 васьмікватэрны. Колькі ўсяго кватэр пабудавалі?



**4** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 48 + 9 – 7 | 58 + 5 – 13 | 68 + 5 – 17 |
| 52 + 7 – 10 | 78 + 7 – 24 | 48 + 6 – 24 |
| 88 + 3 – 24 | 28 + 6 – 9 | 57 + 9 – 19 |
| 91 + 9 – 12 | 64 + 36 – 8 | 26 + 74 – 21 |
| 18 + 28 – 6 | 72 – 36 + 9 | 81 – 40 + 12 |

**5** Самалёт вылецеў з Магілёва ў Мінск у 8 г 30 мін. Прызямліўся самалёт у Мінску ў 9 г 10 мін. Колькі часу самалёт быў у палёце?

**6*** Дзяўчынка нарысавала 4 адрэзкі. Кожны наступны адрэзак яна рысавала на 2 см даўжэйшым за папярэдні. На колькі сантыметраў першы адрэзак карацейшы за апошні?




**7** Даўжыня прамавугольніка — 7 см, а шырыня — на 3 см меншая. Знайдзі перыметр прамавугольніка.



**8** На лузе пасецца некалькі коз. У іх 12 ног. Колькі коз пасецца? Колькі рагоў у гэтых коз?

**9** З 15 кветак зрабілі 5 аднолькавых букетаў. Колькі кветак у кожным букеце?

**10** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| $4 \cdot 2$ | $18 - (19 - 7)$ | $92 - 8$ | $7 \cdot 2$ |
| $6 \cdot 2$ | $40 + (19 + 3)$ | $36 - 9$ | $5 \cdot 2$ |
| $8 \cdot 2$ | $20 + (10 - 6)$ | $100 - 9$ | $2 \cdot 9$ |
| $9 \cdot 2$ | $38 + (18 - 3)$ | $68 - 9$ | $2 \cdot 7$ |

**1** Бабуля звязала 18 радысак у пучкі, па 6 штук у кожным. Колькі пучкоў атрымалася?



**2** Аднаві прыклады.

| | | |
|---|---|---|
| $\square : 3 = 6$ | $\square \cdot 3 = 18$ | $2 \cdot \square = 18$ |
| $18 : \square = 9$ | $2 \cdot \square = 12$ | $4 \cdot \square = 12$ |
| $16 : \square = 8$ | $4 \cdot \square = 8$ | $16 : \square = 8$ |

**3** У кафэ за адзін столік можна пасадзіць 3 чалавекі. Колькі такіх столікаў будзе занята, калі туды прыйдуць 15 чалавек?

**4** Да абеду прадалі 3 скрыні соку, па 6 пакетаў у кожнай скрыні. Пасля абеду прадалі яшчэ 20 пакетаў соку. Колькі пакетаў соку прадалі да абеду? Колькі пакетаў соку прадалі за дзень?




**5** Запішы па нарастанні лікі, у якіх:
5 дзяс. 4 адз.; 4 дзяс. 5 адз.; 5 дзяс.; 7 дзяс.

**6*** Стужку даўжынёй 30 м падзялілі на 3 часткі, прычым адна з іх на 1 м даўжэйшая за другую і на 1 м карацейшая за трэцюю. Знайдзі даўжыню кожнай часткі.




**7**Аднаві прыклады.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| ❀1 | 7❀ | ❀3 | ❀5 | ❀7 |
| + 4❀ | − ❀4 | + 4❀ | − 3❀ | − 3❀ |
| 69 | 36 | 79 | 29 | 34 |

**8** На поле выехалі 15 трактароў і 17 грузавікоў. У гаражы засталося 9 машын. Колькі машын было ў гаражы спачатку?

**9** Выразі ў сантыметрах: 5 дм 6 см; 9 дм; 9 дм 2 см.

**10** 8 яблыкаў расклалі на 4 талеркі пароўну. Колькі яблыкаў на кожнай талерцы?
Зрабі да задачы рысунак.

**11** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 60 – 36 | 90 – 59 | 50 – 32 | 70 – 9 |
| 80 – 12 | 70 – 24 | 57 + 3 | 67 – 4 |

## Урок 122



Старана квадрата 2 см. Знайдзі яго перыметр.

Рашэнне. $2 \cdot 4 = 8$ (см).

Адказ: 8 сантыметраў.




**1** Замяні суму аднолькавых складаемых здабыткам.

4 + 4 + 4　　　　2 + 2 + 2 + 2
3 + 3 + 3 + 3　　　7 + 7 + 7 + 7

**2** Вымерай стораны трохвугольніка і знайдзі яго перыметр.



**3** Вусна.







**4** Вылічы: 65 – 14. Як зменіцца рознасць, калі: а) памяншаемае павялічыць на 5, а аднімаемае паменшыць на 4; б) памяншаемае павялічыць на 5, а аднімаемае паменшыць на 5?

**5*** Верталёт зрабіў 2 рэйсы з горада ў лагер геолагаў. Кожны раз ён прывозіў у лагер 6 скрынь з харчамі. З лагера забіраў 3 скрыні з карыснымі знаходкамі. Колькі ўсяго скрынь перавёз верталёт за 2 рэйсы?



**6** Даўжыня прамавугольніка — 4 см, шырыня — 2 см. Знайдзі яго перыметр.

**7** Падбяры лікі так, каб няроўнасці сталі правільнымі.

$\square \cdot 6 < 20$ $\qquad$ $3 \cdot \square < 18$

$2 \cdot \square < 17$ $\qquad$ $\square \cdot 3 > 7$

**8** Стужку даўжынёй 27 м разрэзалі на 3 аднолькавыя кавалкі. Колькі метраў стужкі ў адным кавалку?

**9** На ролікавых коньках каталіся 12 хлопчыкаў і 9 дзяўчынак. Калі некалькі дзяцей пайшлі дадому, то катацца засталося 11 дзяцей. Колькі дзяцей пайшлі дадому?

**10** Вылічы.

$\begin{array}{r} 70 \\ -\ 38 \\ \hline \end{array}$ $\quad$ $\begin{array}{r} 60 \\ +\ 18 \\ \hline \end{array}$ $\quad$ $\begin{array}{r} 97 \\ -\ 28 \\ \hline \end{array}$ $\quad$ $\begin{array}{r} 100 \\ -\ 46 \\ \hline \end{array}$ $\quad$ $\begin{array}{r} 54 \\ +\ 46 \\ \hline \end{array}$

## Паўтарэнне за 2 клас

**1** Ад прамавугольніка са старанамі 4 см і 10 см адрэзалі квадрат. Знайдзі перыметр квадрата і атрыманага прамавугольніка.

4 см

10 см

**2** Знайдзі прыклады, у якіх аднімаемае роўна 27, і вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 27 + 15 | 90 – 27 | 67 – 27 | 27 – 27 |
| 59 + 27 | 27 – 18 | 95 – 27 | 99 – 27 |

**3** Кравец зняў мерку з заказчыцы і запісаў наступныя даныя. Даўжыня спадніцы — 66 см. Даўжыня жакета — 77 см. Даўжыня рукава — 67 см. Колькі дэцыметраў і сантыметраў у кожным з гэтых лікаў?

**4** Маса пустога бензабака 12 кг, а напоўненага бензінам — 76 кг. На колькі маса бензіну большая за масу пустога бака?

**5** Падбяры лікі так, каб роўнасці сталі правільнымі.

6 дм = ☐ см   1 г 20 мін = ☐ мін

5 м = ☐ дм   10 см = ☐ дм

**6**




**7** Перыметр квадрата — 12 см. Кожную старану павялічылі на 2 см. Чаму роўны перыметр утворанага квадрата?

**8** Фільм пачаўся ў 12 г і працягваўся 1 г 20 мін. А якой гадзіне закончыўся фільм?

**9** З першага слоіка адлілі 3 шклянкі соку, а з другога — 12. У якім слоіку соку засталося менш?




**10** У першай скрыні 56 кг бульбы, у другой — на 7 кг больш, чым у першай. У трэцяй скрыні на 15 кг менш, чым у другой. Колькі кілаграмаў бульбы ў трэцяй скрыні?



**11** Знайдзі выразы, у якіх памяншаемае роўна 64, і вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 64 + 6 | 64 – 23 | 20 + 64 | 64 – 64 |
| 100 – 64 | 64 – 38 | 64 – 6 | 65 – 64 |
| 64 – 29 | 64 – 57 | 64 – 28 | 64 – 16 |

**12** На палосцы паперы даўжынёй 21 см Света зрабіла надрэзы праз кожныя 3 см. Колькі надрэзаў зрабіла Света?




**13** Разгледзь фігуры. Чым яны падобныя? Чым адрозніваюцца?




**14** Вылічы зручным спосабам.

$$34 + 29 + 11 + 16 = (34 + 16) + (29 + 11) =$$
$$= 50 + 40 = 90$$

| | |
|---|---|
| 26 + 13 + 14 + 7 | 15 + 27 + 15 + 13 |
| 27 + 23 + 44 + 6 | 25 + 18 + 45 + 12 |
| 55 + 17 + 15 + 13 | 32 + 23 + 18 + 17 |

**15*** Арцём запісаў лікі ад 1 да 100. Колькі разоў ён пісаў лічбу 5?

**16** Расстаў дужкі так, каб роўнасці сталі правільнымі.

27 – 7 + 4 = 24
24 – 9 + 6 = 21
19 – 8 + 2 = 13
25 – 8 + 4 = 13

16 – 9 + 1 = 6
17 – 9 + 3 = 11
39 + 9 – 18 = 30
54 – 8 + 27 = 19

**17*** Два бацькі і два сыны падзялілі паміж сабой тры апельсіны так, што кожнаму дасталося па адным. Як гэта магло быць?

**18***




**19*** Устаў патрэбныя лікі.

24 + (☐ – 86) = 24
63 + (☐ – 22) = 63
30 + 44 – ☐ + 30 = 60
22 + 18 – 3 + ☐ = 74

☐ + (8 – 8) = 19
(☐ – 6) + 6 = 90
☐ + (9 – 9) = 15
(☐ – 7) + 7 = 47

**20*** Знайдзі заканамернасці і ўстаў патрэбныя лікі.

☐, ☐, 35, 42, 49, ☐, ☐;
☐, ☐, ☐, 8, 16, 32, ☐.

**21** Знайдзі заканамернасці і складзі прыклады.

| | | |
|---|---|---|
| 50 | | 20 |
| | 30 | |

| | | |
|---|---|---|
| 38 | | 12 |
| | ? | |

| | | |
|---|---|---|
| 64 | | ? |
| | 39 | |

| | | |
|---|---|---|
| ? | | 12 |
| | 58 | |

**22*** Перыметр аднаго прамавугольніка 48 см, а другога — 36 см. Даўжыні гэтых прамавугольнікаў аднолькавыя. На колькі сантыметраў шырыня першага прамавугольніка большая за шырыню другога?

**23** Міхасю праз 3 гады будзе столькі гадоў, колькі Тані цяпер. Хто з дзяцей старэйшы і на колькі гадоў?

**24** Каля дома стаіць 3 машыны. У кожнай машыны — 4 колы. Колькі колаў у трох машын?

**25** Спартыўная тэлевізійная перадача працягвалася 30 мін, а закончылася ў 2 г 45 мін дня. А якой гадзіне пачалася перадача?

**26** Аня купіла 10 сшыткаў. 4 сшыткі яна аддала Юру і столькі ж — Дзіму. Колькі сшыткаў засталося ў Ані?

**27** Запішы велічыні па спаданні: 1 м 3 дм; 20 дм; 30 см; 1 дм 7 см; 8 см.

**28** Вызнач пры дапамозе вугольніка від кожнага вугла чатырохвугольніка.



**29** Мікола зрабіў тры вуды. На першую вуду спатрэбілася 5 м лёскі. На другую — на 1 м менш. На трэцюю — 3 м. Колькі метраў лёскі пайшло на тры вуды?

**30*** Які дзень тыдня будзе паслязаўтра, калі пазаўчора быў чацвер?

**31** Вусна. Вылічы паводле ўзору.




| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | 3 | + | 9 | = | 2 | 3 | + | 1 | 0 | – | 1 | = | 3 | 3 | – | 1 | = | 3 | 2 |

25 + 9 48 + 9 84 + 7 25 + 29

88 + 8 72 + 8 33 + 19 58 + 19

**32** Колькі разоў ад 72 трэба адняць 12, каб атрымаць 0? Выканай вылічэнні.

**33** У аднаго кураняці 2 ножкі. Колькі ножак у 4 куранят?



**34** 3 · 4 + 5

Запішы карацей.

| | | |
|---|---|---|
| 2 + 2 + 2 + 2 + 6 | 4 + 4 + 4 | 9 + 9 + 9 + 3 |
| 9 + 9 + 7 | 3 + 3 + 8 | 8 + 8 + 8 + 6 |
| 15 + 2 + 2 + 2 | 5 + 5 + 7 | 7 + 7 + 7 + 9 |
| 10 + 10 + 3 | 6 + 6 + 9 | 6 + 6 + 6 + 12 |

**35** З цяпліцы мама прынесла 25 памідораў. Раніцай з'елі 5 штук. Вечарам — яшчэ некалькі. Пасля гэтага засталося 13 памідораў. Колькі памідораў з'елі вечарам?

**36*** У дзядулі 7 яблыкаў. Кожнаму ўнуку ён хацеў даць па адным яблыку, але двух яблыкаў не хапіла. Колькі ўнукаў у дзядулі?

**37** Ці змяшчае гэты трохвугольнік прамы вугал? Правер. Вымерай стораны трохвугольніка і знайдзі яго перыметр.



**38** 42 – 17 = 25. Памяншаемае павяліч на 7, аднімаемае паменшы на 7. Як зменіцца рознасць?

**39** Выразі.

5 дм 3 см = ☐ см   70 см = ☐ дм

25 дм = ☐ м ☐ дм   3 м 5 дм = ☐ дм

1 г 10 мін = ☐ мін   80 мін = ☐ г ☐ мін

**40** Адлегласць паміж хлопчыкамі — 100 крокаў. Якой будзе адлегласць паміж імі, калі адзін з іх пройдзе насустрач другому 17 крокаў, а другі — 20 крокаў?




**41** Вылічы.

60 – (73 – 70)   70 – 6 + 20   82 – (32 + 50)
32 + (68 – 60)   29 + 2 – 30   69 + (46 – 46)

**42** Разгледзь рысункі. Складзі прыклады на множанне і рашы іх.



$2 \cdot \square = \square$





$4 \cdot \square = \square$ $5 \cdot \square = \square$

**43** Прачытай запіс: $5 \cdot 2 = 10$. Што абазначае множнік 5; 2? Як праверыць, што $5 \cdot 2 = 10$?

**44** Мама прынесла з цяпліцы 18 агуркоў і расклала іх пароўну ў два слоікі. Колькі агуркоў у кожным слоіку?
Складзі адваротную задачу з адказам 18.

**45** (>, <, =)

$2 \cdot 3 * 2 \cdot 3 + 2$ $2 \cdot 7 * 2 \cdot 8 - 2$
$2 \cdot 5 * 2 \cdot 5 - 2$ $2 \cdot 9 * 2 \cdot 10 - 2$
2 дм * 21 см 9 дм * 87 см

**46*** Якое слова зашыфравана?

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 24 – 19 | 2 · 6 | 8 : 2 | 28 – 19 | 8 · 2 | 88 – 77 |

| 20 | 5 | 9 | 16 | 11 | 4 | 12 | 49 | 13 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| м | у | н | а | к | ы | ч | т | ю |

**47** Нарысуй адрэзак даўжынёй 6 см і падзялі яго на адрэзкі, па 2 см кожны. Колькі адрэзкаў атрымалася?

**48** Ад дома да водакалонкі 20 м, а ад дома да школы 60 м. На колькі метраў адлегласць ад дома да школы большая, чым ад дома да водакалонкі? Знайдзі адлегласць ад водакалонкі да школы.




**49** Знайдзі суму 47 + 18. Як зменіцца сума, калі адно складаемае павялічыць на 5, а другое — паменшыць на 3?

**50** У першай кнізе 70 старонак, у другой — на 56 старонак менш, чым у першай, а ў трэцяй — столькі, колькі ў першай і другой кнігах разам. Колькі старонак у трэцяй кнізе?

**51** Запішы выразы і знайдзі іх значэнні:
рознасць ліку 60 і сумы лікаў 18 і 9;
здабытак лікаў 2 і 7;
дзель лікаў 14 і 2.

## Паўтарэнне

**52** 




Выпішы лікі, якія дзеляцца на 2. Выпішы лікі, якія не дзеляцца на 2.

**53** Выпішы па спаданні лікі ад 20 да 1, якія дзеляцца на 2, а пад імі — па нарастанні — лікі, якія не дзеляцца на 2. Знайдзі суму лікаў у кожнай пары.

**54** Света склала з палачак два трохвугольнікі і два квадраты. Колькі ўсяго палачак ёй для гэтага спатрэбілася?



**55** Якія лікі схаваны?

$\square - 22 = 50$ $\quad 47 - \square = 12$ $\quad 3 \cdot \square = 6$

$16 + \square = 28$ $\quad \square \cdot 2 = 18$ $\quad \square \cdot \square = 4$

**56** 

$5 \cdot 2 + 5 * 5 \cdot 3$ $\qquad 6 + 6 + 6 * 6 \cdot 3$

$4 \cdot 2 + 4 * 4 \cdot 4$ $\qquad 3 + 3 + 3 * 3 \cdot 2$

$4 \cdot 2 + 4 * 4 \cdot 2$ $\qquad 9 \cdot 2 + 9 * 9 \cdot 3$

**57** На пачатку года ў розныя спартыўныя секцыі запісаліся 43 вучні. На працягу года 8 дзяцей сышлі з секцый, а 14 вучняў прыйшлі. Колькі стала вучняў у спартыўных секцыях?

**58*** Замест зорачак пастаў знакі «+» або «–», а замест акенцаў — патрэбныя лікі так, каб запісы сталі правільнымі.

| | |
|---|---|
| 13 * ☐ + 7 = 20 | 14 * ☐ + 6 = 20 |
| 20 * ☐ < 20 – 7 | 20 * ☐ < 20 – 8 |
| 64 * ☐ = 59 + 1 | 38 * ☐ = 27 + 3 |

**59** Ёсць прамавугольнік са старанамі 12 см і 10 см. Як трэба змяніць яго даўжыню, каб атрымаўся квадрат? Нарысуй такі квадрат. Знайдзі яго перыметр.

**60** На стале — 12 вафель і 17 пернікаў. З'елі 5 вафель і столькі ж пернікаў. Колькі пернікаў засталося на стале?

**61** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 2 · 9 | 49 – 15 | (29 – 27) · 2 |
| 18 : 2 | 14 + 29 | (41 – 38) · 2 |

(Назва і нумар установы адукацыі)

| Навучальны год | Імя і прозвішча навучэнца | Стан вучэбнага дапаможніка пры атрыманні | Адзнака навучэнцу за карыстанне вучэбным дапаможнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |

Вучэбнае выданне

**Чабатарэўская** Тамара Мацвееўна
**Нікалаева** Валянціна Уладзіміраўна

**МАТЭМАТЫКА**

Вучэбны дапаможнік для 2 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У 2 частках

Частка 2

2-е выданне, выпраўленае і дапоўненае

Заг. рэдакцыі *Г. А. Бабаева*. Рэдактар *Л. М. Ясніцкая*. Мастак *А. У. Філіпёнак, В. Г. Шведаў.* Мастацкі рэдактар *Л. А. Дашкевіч*. Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Л. І. Шаўко*. Карэктары *В. С. Бабеня, А. П. Тхір, Г. В. Алешка.*

Падпісана ў друк 20.04.2016. Фармат 70 x 90 $^1/_{16}$. Папера афсетная. Гарнітура журнальная рубленая. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 9,95 + 0,29 форз. Ул.-выд. арк. 4,7 + 0,3 форз. Тыраж 10 200 экз. Заказ .

Выдавецкае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Народная асвета»
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/2 ад 08.07.2013.
Пр. Пераможцаў, 11, 220004, Мінск, Рэспубліка Беларусь.

ААТ «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/3 ад 04.10.2013.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, Мінск, Рэспубліка Беларусь.